Гродна
№9 (538),
3 мая 2020

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# У МАІ З МАРЫЯЙ: ПОБАЧ СА СЛУГОЙ І КАРАЛЕВАЙ

**МАЙ – ГЭТА МЕСЯЦ, КАЛІ СЭРЦЫ ХРЫСЦІЯН РАДАСНА ЎШАНОЎВАЮЦЬ НАЙСВЯЦЕЙШУЮ ПАННУ МАРЫЮ ПРАЗ АДМЫСЛОВЫЯ МАЛІТВЫ І НАБАЖЭНСТВЫ. ВЕРНІКІ ЗАХАПЛЯЮЦЦА МАДОННАЙ, ДАРУЧАЮЧЫ ЁЙ УЛАСНЫЯ ЛЁСЫ ЯК КАРАЛЕВЕ НЕБА.**

● працяг на с. 4



# З ЧАЛАВЕКАМ ДА АПОШНЯГА

**НА 47-ЫМ ГОДЗЕ ЖЫЦЦЯ АДЫШОЎ У ВЕЧНАСЦЬ КС. КАНОНІК АЛЕГ ДУЛЬ, ПРОБАШЧ ПАРАФІІ СВ. СТАНІСЛАВА КОСТКІ Ў ВАЎКАВЫСКУ. СВЯТАР ПАМЁР У ПЛЯБАНІІ Ў ПЕРАДАПОШНЮЮ ПЯТНІЦУ ВЯЛІКАГА ПОСТУ АКУРАТ У ТОЙ ЧАС, КАЛІ МЯСЦОВЫЯ ВЕРНІКІ АДПРАЎЛЯЛІ Ў КАСЦЁЛЕ НАБАЖЭНСТВА КРЫЖОВАГА ШЛЯХУ.**

● працяг на с. 7

**“Трымаючыся Маці Божай, пераадолеем самыя крутыя віражы гісторыі”. Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

## IV ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 10, 1–10**

Езус сказаў: “Сапраўды, сапраўды кажу вам: хто ўваходзіць не праз браму на авечы двор, але залазіць інакш, той злодзей і злачынец. А хто ўваходзіць праз браму, той пастыр авечак. Брамнік яму адчыняе, і авечкі слухаюцца голасу ягонага; кліча сваіх авечак па імені і выводзіць іх. А калі ўсіх выведзе, ідзе перад імі, і авечкі ідуць за ім, бо ведаюць ягоны голас. За чужым не ідуць, але ўцякаюць ад яго, бо не ведаюць голасу чужых”. Такую прыпавесць сказаў ім Езус, але яны не зразумелі, што Ён казаў ім. Езус зноў сказаў: “Сапраўды, сапраўды кажу вам: Я – брама для авечак. Усе, колькі іх прыходзіла перада Мною, гэта злодзеі і злачынцы, і авечкі не паслухалі іх. Я – брама. Калі хто ўвойдзе праз Мяне, будзе збаўлены, і ўвойдзе, і выйдзе, і знойдзе пашу. Злодзей прыходзіць дзеля таго, каб красці, забіваць і нішчыць. Я прыйшоў, каб вы мелі жыццё і мелі ў дастатку”.

### РАСПАЗНАЦЬ ГОЛАС БОГА

Вельмі важна сярод столькіх галасоў, якія гучаць у гэтым свеце, навучыцца распазнаваць голас Бога – Добрага Пастыра. Для таго, каб шчасліва вандраваць праз жыццё, трэба ведаць Яго голас, умець выхапіць вокліч Стварыцеля, які прагне нашага сапраўднага шчасця і дабра.

Жыццё пастаянна ставіць перад нялёгкімі выбарамі. Часта адчуваем сябе так, быццам на скрыжаваннях нашых дарог адначасова загарэлася зялёнае і чырвонае святло. Тады так цяжка выбраць напрамак... Мы неаднойчы разгубленыя і падобныя да авечак, якія не маюць пастыра. Таму неабходна накіроўвацца за Праваднікам, які бяспечна правядзе праз мінучае жыццё да паўнаты шчасця. Толькі той, хто пойдзе за Добрым Пастырам, “знойдзе пашу”, бо Ён вывядзе на зялёныя, сакавітыя лугі.

Слухайма голас Хрыста, слухайма голас Евангелля, слухайма голас Касцёла, слухайма голас Божых запаведзей – яны нас не падвядуць, не дазволяць заблукаць. Езус з'яўляецца Брамай да сапраўднага шчасця. Ён наш Добры Пастыр!

**Ці распазнаў я голас Бога?**

**Якім чынам крочу за Езусам?**

## V ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 14, 1–12**

Езус сказаў сваім вучням: “Няхай не трывожыцца сэрца вашае. Верце ў Бога і ў Мяне верце. У доме Айца Майго шмат святліц. А калі б так не было, ці сказаў бы Я вам, што іду падрыхтаваць месца для вас. І калі пайду і падрыхтую вам месца, прыйду зноў і забяру вас да сябе, каб і вы былі там, дзе Я. А дарогу, куды Я іду, вы ведаеце”. Кажа яму Тамаш: “Пане, не ведаем, куды ідзеш. Як жа можам ведаць дарогу?”. Езус сказаў яму: Я – дарога і праўда, і жыццё. Ніхто не прыходзіць да Айца інакш, як толькі праз Мяне. Калі б вы ведалі Мяне, ведалі б і Айца Майго. І адгэтуль ужо Яго ведаеце і бачылі”. Філіп кажа Яму: “Пане, пакажы нам Айца і хопіць нам”. Адказаў яму Езус: “Філіпе, столькі часу Я з вамі, а ты не ведаеш Мяне? Хто Мяне бачыў, бачыў і Айца. То чаму ты кажаш: «Пакажы нам Айца»? Ці ты не верыш, што Я ў Айцу і Айцец ува Мне? Словы, што Я кажу вам, не ад сябе кажу. Але Айцец, які ўва Мне, Ён чыніць справы свае. Верце Мне, што Я ў Айцу і Айцец ува Мне. А калі не, то верце дзеля саміх учынкаў. Сапраўды, сапраўды кажу вам: хто верыць у Мяне, будзе рабіць учынкі, якія Я раблю, і большыя за іх зробіць, бо Я іду да Айца Майго”.

### ПЕРАМАГЧЫ З БОГАМ

У велікодны перыяд Езус прыгадвае, што мэтай жыцця чалавека з'яўляецца вечнасць з Богам. Хоча падзяліцца з намі ўдзелам у сваёй перамозе над грахом і смерцю. Запрашае разам з Ім прыняць удзел у хвале Неба і ўжо тут, на зямлі, указвае шлях, каб дайсці да гэтай мэты.

Езус гаворыць пра сябе як пра дарогу, праўду і жыццё. Ён сам з'яўляецца Дарогай, якая вядзе нас да Бога Айца, у Неба. Гэта Ён з'яўляецца Праўдай аб нашым жыцці і аб нас саміх. Толькі ў Ім можам адкрыць гэтую праўду. Менавіта Езус з'яўляецца Жыццём – паўнатой нашага жыцця, як тут, на зямлі, так і ў вечнасці.

Збаўца абяцае, што верачы ў Яго, мы будзем рабіць вялікія справы. Таму давайце з адвагай ісці ў штодзённасць. Даверымся Хрысту, каб страхі і жыццёвыя цяжкасці не бралі над намі верх, але каб Ён – Дарога, Праўда і Жыццё – вёў нас да перамогі, таму што да жыцця і перамогі мы былі створаны Богам.

**Кім для мяне з'яўляецца Езус Хрыстус?**

**Ці сапраўды я накіроўваюся ў бок перамогі?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Узяць Марыю да сябе

***Месяц май самы прыгожы з усіх месяцаў, бо гэта пара кветак і свежай зеляніны, час, калі ўсё ажывае, адраджаецца. Менавіта гэты месяц нашы продкі прысвяцілі Маці Божай, якая прысутнічала на світанку Адкуплення чалавека.***

Праз Марыю прыйшоў да нас Хрыстос, каб праз Яе ж удзяліць нам неабходныя ласкі. Яна, будучы Маці Езуса, Уцелаўлёнага Божага Сына, з'яўляецца таксама Маці ўсіх з'яднаных з Хрыстом – Маці Яго Касцёла. Св. Ян Павел II, чый соты дзень нараджэння будзем адзначаць у гэтым месяцы, падкрэсліваў, што “плён Яе жыцця выспеў пад Крыжом, дзе самым трагічным чынам была аб'яўлена праўда, што Бог ёсць Любоў. У духу гэтай Божай любові, паслухмяная закліку Сына, Яна прыняла ў апостале Яне нас усіх як сваіх дзяцей” (Angelus, 1999).

Марыя вызваляе нас ад незлічоных небяспек, якіх не змаглі б пазбегнуць самастойна. Яна ахвяруе чалавеку ўсё, што “захавала ў сваім сэрцы”. У Марыі знаходзім першы знак надзеі. Звяртаемся да Яе, калі адчуваем сябе згубленымі, калі хочам выпрастаць кірунак жыцця, а таксама калі згасае вера ў нашых сэрцах. Просім Яе заступніцтва, калі перажываем драму адзіноты, ізаляцыі і пакінутасці ў сувязі з пануючай пандэміяй каронавіруса. Маці Божая з'яўляецца вернай надзеяй на збаўленне, якая зззяе сярод жыццёвых цяжкасцей.

Сёлетні май не такі, як заўжды. У нашых парафіях не будзе традыцыйных урачыстасцей Першай св. Камуніі, а моладзь не зможа прыняць сакрамант канфірмацыі. Усё гэта адбудзецца крыху пазней... У нашых святынях значна менш людзей, менш пажылых, адданых жанчын, якія абаранялі Божае і святое.

Не ва ўсіх будзе магчымасць кожны дзень збірацца ў касцёлах або каля прыдарожных капліц. Некаторыя застануцца ў сваіх “хатніх касцёлах”, каб там з верай і любоўю ўглядацца ў Маці Бога, ушаноўваць Яе. Кожны паклікаы вызнаваць сыноўскую любоў, вучыцца ў Найсвяцейшай Маці прыгожаму ладу жыцця і прасіць аб апецы. Кожны мае права “ўзяць Яе да сябе”.

Задача для нас – прыняць Марыю як сваю духоўную Маці. Бярэм Яе да сябе ў плоскасці нашага розуму – калі пазнаём Яе, бачым у святле веры вялікую годнасць Марыі як Маці Бога-Чалавека, калі ўсведамляем вялікую ролю, якую адыграла ў жыцці Хрыста і якую выконвае як Маці Касцёла. Мы павінны таксама ўзяць Марыю да сябе ў плоскасці сэрца, палюбіўшы Яе як найлепшую Маці. Гэтая любоў будзе праяўляцца ў актыўным служэнні Ёй, у радасным святкаванні марыйных урачыстасцей, у ахвотным удзеле ў марыйных набажэнствах і паломніцтвах у Яе санктуарыі. Нам таксама трэба ўзяць Марыю да сабе ў плоскасці свайго жыцця, г. зн. пераймаць Яе ў радасным служэнні Пану Богу.

**Дарагія Чытачы!**

**Будзем жыць у свядомасці таго, што Марыя бяспечна правядзе кожнага, хто даверыцца Ёй, праз мірскую пілігрымку ў вечную Айчыну. Дзякуйма Ёй за тое, што з'яўляецца нашай Маці, і за тое, што заўсёды на баку чалавека!**

# Ян Павел II і Маці Божая




> ***Я ўвесь Твой, і ўсё маё Табе належыць. Прымаю Цябе ва ўсім, што маё. Дай мне Сэрца Тваё, Марыя.***

У 1958 годзе Караль Вайтыла быў прызначаны дапаможным біскупам Кракаўскай архідыяцэзіі. На яго гербе віднелася літара “M”, якая сімвалізавала адданасць Марыі. Дэвізам былі абраны словы “Totus Tuus” (“Цалкам Твой, Марыя”).

Гэтыя ж словы прагучалі з вуснаў Яна Паўла II на самым пачатку яго пантыфікату. Адлюстраваліся яны і ва ўсім служэнні Папы-паляка. “Моцай гэтых слоў я змог прайсці праз досвед страшнай вайны, жудасную нацыстскую акупацыю, а пазней і праз іншыя складаныя пасляваенныя выпрабаванні, – скажа ён пазней у адной са сваіх прамоў. – Магчымасць прыняць Марыю ў свой дом, у сваё жыццё – прапанова для нас усіх”.

Караль Вайтыла паходзіў з веруючай сям'і, і з марыйнай духоўнасцю быў знаёмы з дзяцінства. Пасля смерці маці бацька адвёз 8-гадовага Караля і яго старэйшага брата Эдмунда ў санктуарый Маці Божай у Кальварыі Зэбжыдоўскай. Пазней на хлопца вялікі ўплыў акажа “Трактат аб сапраўдным набажэнстве да Найсвяцейшай Панны Марыі”, напісаны французскім тэолагам і містыкам св. Людвікам Марыя Грыньёнам дэ Манфортам.

З маладых гадоў Караль пачне насіць шкаплер. Не здыме яго да апошняга дня свайго жыцця. З ім і будзе пахаваны. У гаміліі падчас развітальнай св. Імшы тады яшчэ кард. Ёзэф Ратцынгер сказаў: “Святы Айцец знайшоў найчысцейшае адлюстраванне Божай міласэрнасці ў Маці Божай. Ён, які страціў у дзяцінстве ўласную маму, тым больш палюбіў Маці Божую”. Паўтараючы за Бенедыктам XVI можна сцвердзіць, што святы Папа па-сыноўску любіў і шанаваў нябесную Маці, якая замяніла яму маці зямную.

Гэты сыноўскі стасунак да Марыі адлюстроўваўся ў даверы, які св. Ян Павел II меў да нябеснай Маці. Яшчэ знаходзячыся ў клініцы Джэмэлі пасля замаху на сваё жыццё, Папа прасіў, каб яму прывезлі дакументы, звязаныя з аб'яўленнямі Марыі ў Фаціме. Пра тыя падзеі ўспамінаў так: “Пасля пакушэння на плошчы св. Пятра, калі я апрытомнеў, думкамі адразу ж аказаўся ў гэтым санктуарыі, каб у сэрцы нябеснай Маці скласці падзяку... Ва ўсім, што здарылася, я ўбачыў – і заўсёды буду гэта паўтараць – асаблівую мацярынскую апеку Марыі. А што ў планах Провіду няма выпадковасцей – убачыў у гэтым выклік і, хто ведае, напамін пасланне, якое выйшла адсюль”.



*Ян Павел II ахвяраваў кулю для фігуры МБ Фацімскай*

Праз год пасля пакушэння, 13 мая 1982 года, Пантыфік накіраваўся ў Партугалію, каб аддаць свет пад апеку Беззаганнаму Сэрцу Марыі, рэалізуючы фацімскае пасланне. Тады ж ён уклаў у карону фігуры Маці Божай кулю, што раніла яго на плошчы св. Пятра ў Рыме. Як заўважыў аднойчы ў размове са святарамі-філосафамі з Польшчы, што ўвайшло ў кнігу “Памяць і самасвядомасць”, “Агджа ведаў, як страляць, і страляў, несумненна, беспамылкова. Толькі што нібы «хтосьці» вёў гэтую кулю...”. Яшчэ не раз будзе дзякаваць Марыі за ўратаванне свайго жыцця.

Падчас апошняга, трэцяга візіту ў Партугалію ў 2000 годзе ў знак падзякі за апеку Маці Божай намеснік св. Пятра ахвяраваў марыйнаму санктуарыю свой персцень з Яе выявай і змешчаным папскім дэвізам, які на самым пачатку пантыфікату атрымаў ад блізкага супрацоўніка і сябра кардынала Стэфана Вышынскага.

Ян Павел II да апошняга быў адданым сынам Найсвяцейшай Маці. Часта прасіў Нябесную Заступніцу моцна трымаць яго за руку. Яшчэ ў 1985 годзе падчас апостальскага візіту ў бельгійскі горад Мехелен склаў (і пакінуў там) наступную малітву:

> ***Калі б аднойчы мне прыйшлося доўга ляжаць без свядомасці, прагну, каб кожная гадзіна, якую мне дадзена пералсыць такім чынам, была бесперапыннай падзякай, а мой апошні ўздых стаў уздыхам любові. Тады, у такі момант, мая душа, вядзёная рукой Марыі, стане перад Табою, каб вечна апяваць Тваю хвалу. Амэн.***

*Кацярына Паўлоўская*

# Навучыцца ратаваць жыццё

***Няшчасныя выпадкі, траўмы і хваробы могуць здарыцца з намі раптоўна. Што рабіць у першыя секунды пасля тэрмічнага апёку? Што калі ўзніклі сутаргі альбо калі дзіця падавілася ці праглынула нешта небяспечнае? Мінімальнымі навыкамі рэанімацыі павінен валодаць кожны – гэта ў ідэале. Але на практыцы аказваць першую дапамогу сабе і іншым умеюць нямногія.***

***Урач анестэзіёлаг-рэаніматолаг Максім Таранцей упэўнены, што калі даць бацькам неабходныя веды і адпрацаваць іх на практыцы, можна знізіць працэнт дзіцячых захворванняў, інваліднасці і смяротнасці.***



## ДЗЕЙНІЧАЦЬ РАШУЧА І БЕЗ ПАНІКІ

Максім Таранцей – анестэзіёлаг-рэаніматолаг у 3-ім пакаленні. Працуе ў Гродзенскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы.

***– У сям'і, з якой я паходжу, і мама, і тата, і бабуля, і дзядуля – медыкі, таму над выбарам прафесіі не прыйшлося доўга думаць. Яшчэ са школьнай лаўкі мне падабаліся дакладныя навукі. Я быў прызёрам рэспубліканскіх алімпіяд па біялогіі і, у выніку, абраў у якасці прафесійнага шляху медыцыну,*** – распавядае Максім. – ***Чаму менавіта кірунак анестэзіялогія-рэаніматалогія? Гэта адказна, важна. Да таго ж, хацелася працягваць пачатае дзедам і бацькам.***




Праца ў Максіма мае зменны характар: дзяжурыць калі ўдзень, калі ноччу. Часам даводзіцца ў складзе выязной педыятрычнай брыгады ездзіць па вобласці і перавозіць у гродзенскі шпіталь дзетак ў цяжкім стане. За 8 гадоў практыкі ён бачыў многае: маленькіх пацыентаў, якія паступалі ў рэанімацыю з сур'ёзнымі апёкамі, з іншароднымі целамі ў дыхальных шляхах і многае іншае.

***– Амаль кожны дзень сутыкаюся з траўмамі, якіх, у прынцыпе, можна было б пазбегнуць. Няшчасныя выпадкі адбываюцца часта з-за таго, што бацькі не задумваюцца аб тым, што можа быць небяспечна,*** – тлумачыць Максім. – ***Напрыклад, гэта могуць быць батарэйкі, якія выпалі з цацкі, таму што бацькі не заляпілі адсек скотчам; манеты, якія паклалі на камод, бо дзіця раней туды не дацягвалася, а потым падрасло, узяло іх у ручку і праглынула. Нельга таксама забываць пра разеткі, у якія неабходна ўстаўляць заглушкі. З кожным годам пачашчаюцца выпадкі выпадзення дзяцей з вокнаў, таму неабходна выкарыстоўваць сістэмы, якія ад гэтага засцерагаюць.***

Як адзначае ўрач, бацькі павінны разумець, што ад іх дзеянняў у першыя хвіліны ў нейкай сітуацыі можа залежаць не толькі жыццё дзіцяці і сям'і ў цэлым, але і якасць гэтага жыцця. Напрыклад, што трэба рабіць, калі дзіця падавілася і не дыхае? Большасць у такой сітуацыі губляецца, пачынае трасці за ногі ўніз галавой, кліча на дапамогу ці тэлефануе 103. Але ёсць т. зв. "залатая хвіліна", на працягу якой пацярпелы яшчэ знаходзіцца ў свядомасці. Трэба неадкладна яго ратаваць: спачатку неабходна выканаць удары паміж лапатак (у залежнасці ад узросту, яны робяцца па-рознаму), а затым – прыём Геймліха.

***– Я вельмі часта паўтараю, што галоўнае – гэта кантроль за дзіцём і ацэнка прасторы, дзе яно знаходзіцца: дома, на вуліцы, на дзіцячай пляцоўцы, у гасцях. Найбольш небяспечны перыяд, калі дзіця пачынае поўзаць і ўсё цягне ў рот. Яно не адчувае небяспекі ў навакольных прадметах. Менавіта таму лічу, што вялікую ўвагу трэба ўдзяляць прафілактыцы няшчасных выпадкаў,*** – падкрэслівае суразмоўца. – ***Аб шматлікіх рэчах мы нават не задумваемся, а яны могуць стаць прычынай трагедыі. Банальны прыклад: бабуля развяла хлорку ў бутэльцы з-пад квасу ці соку і пакінула ў прыбіральні. Дзіця праходзіць міма, бярэ і робіць глыток. У яго нават і думкі не ўзнікне, што там можа быць нейкая небяспечная вадкасць. Апошнім часам сутыкаемся таксама з тым, што пагрозу могуць несці развіваючыя цацкі, асабліва магнітныя канструктары. Калі дзіця праглынула некалькі такіх дэталяў з пэўным інтэрвалам часу, злучыўшыся ў арганізме паміж сценкамі ўнутраных органаў, за суткі яны могуць утварыць дзірку.***

За гады сваёй практыкі ўрач шмат аналізаваў, раскладваў па паліцах экстраныя сітуацыі, у якіх апынуліся яго маленькія пацыенты, і кожны раз прыходзіў да высновы: калі б бацькі ведалі, як правільна і своечасова дапамагчы дзіцяці, многіх ускладненняў можна было б пазбегнуць.



## СЯМ'Я – АСНОВА БЯСПЕКІ ДЗІЦЯЦІ

У мінулым годзе медык распрацаваў адмысловы адукацыйны курс і праводзіць заняткі-трэнінгі для бацькоў па першай неадкладнай дапамозе. Мэта праекта "SpasiKIDS" – не толькі навучыць правільна аказваць даўрачэбную дапамогу дзецям у экстранай сітуацыі, але таксама навучыць прадухіляць такія сітуацыі.

***– Гэта першы такога роду праект не толькі ў Гродне, але і ў Беларусі. Да яго стварэння, напэўна, спрычыніўся няшчасны выпадак, які адбыўся з маёй чатырохгадовай дачкой. Мы адпачывалі на дачы. Малая каталася на самакаце, спатыкнулася каля вогнішча, упала і ручкай дагадзіла ў вуголле. Балазе я быў побач і хутка зрэагаваў. Адкрыў кран з халоднай вадой і падставіў пад струмень пашкоджаную руку. Дзякуючы хуткім дзеянням атрымалася пазбегнуць глыбокіх апёкаў. Усё загаілася без хірургічнага ўмяшання, без перасадак скуры і рубцоў. Ужо потым я зразумеў, што гэта быў адзін з момантаў, які навёў на думку падзяліцца асновамі бяспекі з іншымі бацькамі.***

Школа "SpasiKIDS" мае 2 напрамкі дзейнасці. Першы – сацыяльны, гэта бясплатныя трэнінгі для бацькоў з арганізацыі "Рана" (Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне бацькоў неданошаных дзяцей) і цэнтра "ПАРА" (сацыяльна-дабрачынная ўстанова для бацькоў дзяцей, якія сутыкнуліся з анкалогіяй), а таксама заняткі ў паліклініцы №7 г. Гродна, дзе арганізавана "Школа будучай мамы", у перспектыве – супрацоўніцтва з дзіцячым хоспісам. Другі напрамак – камерцыйны, які дапамагае існаваць праекту і папаўняць яго матэрыяльна-тэхнічную базу.

***– За мяжой навучальныя праграмы такога кшталту вельмі папулярныя,*** – гаворыць Максім. – ***Правілам першай дапамогі навучаюць ужо пачынаючы са школы. Там нават могуць узнікнуць праблемы з уладкаваннем на працу, калі не будзеш мець сертыфіката аб праходжанні навучальнага курсу па аказанні першай дапамогі. У аўташколах таксама робяць упор не на кароткі курс, а на паўнавартаснае навучанне з практычнай адпрацоўкай атрыманых ведаў. У гэтым плане мы вельмі моцна адстаём. А між тым, якасць даўрачэбнай дапамогі шмат у чым залежыць ад людзей, якія аказаліся побач, і, як правіла, ад членаў сям'і. Кожны з нас павінен усведамляць, што можа здарыцца такая сітуацыя, калі ад нашых ведаў і навыкаў будзе залежаць жыццё і здароўе іншага чалавека.***

У школу "SpasiKIDS" прыходзяць людзі розных узростаў. Аўтар праекта сустракаецца з групай тройчы. Гэта стандартныя заняткі, якія доўжацца па паўтары гадзіны: спачатку ідзе тэарэтычная частка, потым урач дэманструе прысутным, як аказваць неадкладную дапамогу, а затым адпрацоўваюцца практычныя навыкі на ляльках і спецыяльных манекенах.

***– Ад моманту заснавання школы зацікаўленасць ёю расла. Мы нават перамаглі ў медыцынскай намінацыі ў рэспубліканскім конкурсе сацыяльных праектаў SocialWeekend 2019,*** – адзначае суразмоўца. – ***Цяпер, на жаль, з прычыны неспрыяльнай эпідэміялагічнай сітуацыі ў краіне, давялося адмяніць сустрэчы, але мы перайшлі на новы фармат – анлайн-навучанне.***

Аўтар праекта падкрэслівае, што спраўляцца з вялікім аб'ёмам працы яму дапамагаюць жонка Кацярына, якая займаецца адміністраваннем, камунікацыяй з людзьмі і вядзе сацыяльныя сеткі, а таксама калега анестэзіёлаг-рэаніматолаг Ірына Бублевіч.

***– "SpasiKIDS" дае мне энергію, сілы. Калі бачу ўдзячных бацькоў, якія распавядаюць, што ім удалося пазбегнуць нейкай непрыемнай сітуацыі альбо яны змаглі правільна аказаць першую дапамогу, адчуваю эмацыянальны ўздым. Разумею ў такія моманты, што ўсё робіцца не дарма,*** – падсумоўвае Максім Таранцей.

*Кінга Красіцкая*

---

# СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Мы зграшылі супраць Зямлі і супраць нашых бліжніх, і, па сутнасці, супраць Стварыцеля, добрага Айца, які клапоціцца пра кожнага і жадае, каб жылі разам у адзінстве і дабрабыце... Пакліканы аднавіць адчуванне сакральнай пашаны да Зямлі, бо яна з'яўляецца не толькі нашым, але і Божым домам. Адсюль нараджаецца ўсведамленне таго, што стаім на святой зямлі.*

*У гэты велікодны час аднаўлення адновім высілак, накіраваны на тое, каб любіць і цаніць цудоўны дар – Зямлю, наш супольны дом, і клапаціцца пра ўсіх членаў чалавечай сям'і. Як браты і сёстры, якімі з'яўляемся, будзем разам прасіць Нябеснага Айца: Спашлі свайго Духа і аднаві аблічча зямлі.*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 22.04.2020*

### *Кс. бп Юзаф Станеўскі*



*Без болю не абыходзіцца жыццё ніводнага чалавека. У болю чалавек прыходзіць у гэты свет. Аднак боль адрозніваецца ад цярпення.*

*Боль фізічны, з якім сустракаецца малое дзіця, падаючы пры першым самастойным кроку, матуля ўлагоджвае пацалункам, прыгаворваючы: коціку баліць, зайчыку баліць, а табе не баліць. Медыцына таксама можа на пэўны час спатоліць пацыента: анестэзіраваць падчас аперацыі пашкоджанае месца так, што рана, зробленая вострым скальпелем, не баліць.*

*А цярпенне? Яно большае за фізічны боль. Цярпенне – гэта перажыванне болю душы і цела ў самоце. Таму кс. прафесар Юзаф Цішнер падчас свайго перажывання болю невылечнай хваробы напісаў: "Цярпенне заўсёды нішчыць, цярпенне не надае шляхетнасці. Тым, што дапамагае, падымае і рухае наперад, з'яўляецца любоў".*

*Швейцарскі тэолаг Ханс Кюнг да гэтага пытання падыходзіць так: "Любоў Бога не абараняе мяне ад кожнага цярпення, аднак абараняе ў кожным цярпенні". А паэт і драматург Поль Кладэль адзначае, што "Бог не прыйшоў, каб растлумачыць цярпенне: Ён прыйшоў напоўніць яго сваёй прысутнасцю".*

*Цяжка зразумець і адказаць чалавеку і на простае пытанне: чаму Бог церпіць? Езус у Евангеллі гаворыць: "Калі Я сказаў вам пра зямное, і вы не верыце, то як паверыце, калі скажу вам пра нябеснае?" (Ян 3, 12).*

*Фрагмент разважанняў у аўтарскім блогу на партале catholic.by, 24.04.2020*



◆ У сувязі з надзвычайнай сітуацыяй, выкліканай пандэміяй каранавіруса, Святы Айцец Францішак сумесна з Папскім камітэтам міжнародных эўхарыстычных кангрэсаў і Канферэнцыяй Біскупаў Венгрыі прыняў рашэнне аб пераносе 52-га Міжнароднага эўхарыстычнага кангрэса, запланаванага ў Будапешце ў верасні 2020 года, на верасень 2021 года. На чэрвень 2022 года перанесена Сусветная сустрэча сем'яў, на жнівень 2023 года – Сусветныя дні моладзі.

◆ Кангрэгацыя па справах Усходніх Касцёлаў заснавала спецыяльны Фонд па надзвычайнай сітуацыі, дзякуючы якому плануе дапамагаць змагацца з COVID-19 і яго наступствамі. Ад імя Святога Айца ўжо ахвяраваны 10 апаратаў штучнай вентыляцыі лёгкіх 3-ом медыцынскім установам у Сірыі, 3 такіх прыборы дастаўлены ў бальніцу св. Юзафа ў Іерусаліме. Акрамя таго, набыты і пастаўлены дыягнастычныя камплекты ў Газу, дапамогу атрымала бальніца Святой Сям'і ў Бэтлееме. Зараз вывучаюцца запыты з іншых краін.

◆ У Іерусаліме рэлігійныя лідары ўпершыню сустрэліся разам, каб маліцца аб спыненні пандэміі каранавіруса. "Няхай Бог дасць здароўе хворым і выбавіць свет ад гэтай пошасці", – разам усклікалі прадстаўнікі хрысціянства, іудаізму, ісламу і друзаў. На заканчэнне сабраныя прачыталі псалом, словамі якога пілігрымы ў Святым Горадзе даручалі сябе Божай апецы і прасілі ў Бога бласлаўлення. Супольную малітву ініцыявалі Галоўны рабінат Ізраіля, дзяржаўныя міністэрствы ўнутраных і замежных спраў, Сусветная рада рэлігійных лідараў і інш.

◆ Ажно 38% палякаў з глыбокім перакананнем прызнае, што бягучы перыяд выклікаў у іх рэфлексію над сэнсам жыцця. Такія вынікі прынесла даследаванне, праведзенае сярод чытачоў партала Onet.pl. Па яго выніках, узроставая група, найбольш схільная да рэфлексіі над сэнсам жыцця перад абліччам пандэміі – не пажылыя людзі, а маладыя асобы ва ўзросце 18–24 гадоў. 44% асоб, маладзейшых за 24 гады, больш думаюць пра сэнс жыцця і экзістэнцыі падчас шалеючай пандэміі. 29% з глыбокім пачуццём заяўляюць, што менавіта вера ў Бога дапамагае перажыць няпросты час.

◆ Папе на пенсіі Бенедыкту XVI споўнілася 93 гады. Як пераемнік св. Яна Паўла ІІ, ён кіраваў Касцёлам з 19 красавіка 2005 года да адстаўкі ў 2013 годзе. За час пантыфікату ініцыяваў важныя рэформы ў Ватыкане: увёў глабальныя змены ў функцыянаванне Інстытута рэлігійных спраў (Ватыканскага банка) і падвергнуў эканамічную і фінансавую дзейнасць Святога Пасада міжнародным механізмам кантролю. Шматлікія складаныя абставіны пантыфікату вычарпалі фізічныя сілы Бенедыкта XVI, што прывяло да знакавага рашэння: адстаўкі з пасады Біскупа Рыма. Такая выключная падзея адбылася ўпершыню за 719 гадоў.

*vaticannews.va; credo.pro; ekai.pl*

● працяг са с. 1

# У маі з Марыяй: побач са Слугой і Каралевай



***Калі засяродзіцца над жыццём Марыі як зямной панны – якія мела рысы характару, аб чым думала, што адчувала – то можам усвядоміць, што Яна была простай жанчынай з цвёрдым унутраным стрыжнем. Давайце ўважліва прыглядзімся да адрэзкаў жыцця Марыі з Назарэта, каб яшчэ больш наблізіць Яе постаць.***

## СТОЙКАЯ Ў ВЕРЫ З САМАГА ПАЧАТКУ

Традыцыя падае, што Марыя была ахвяравана на службу Богу ў іерусалімскай святыні. Пасля спаўнення 14-ці гадоў дзяўчына мусіла пакінуць яе, каб вярнуцца ў родны дом, а потым выйсці замуж. Аднак лічыла сваім прызначэннем службу Богу. Тады першасвятар правёў "выпрабаванне Божай волі". Ён сабраў вакол алтара кіі, прынесеныя мужчынамі. Але толькі кій Юзафа выпусціў зялёнае лісце. Стала відавочна, што гэта Божы знак і Юзаф прызначаны для Марыі.

Што павінна была адчуваць Марыя, калі мела жаданне працягваць служэнне Госпаду, аднак мусіла ажаніцца з Юзафам, значна старэйшым за Яе? Магчыма, мела сумненні, але ў сэрцы ведала, што менавіта гэтага хоча Стварыцель. Яна прыняла выклік і дазволіла Слову весці Яе.

## ПАСЛЯДОЎНАЯ Ў ВЫБАРЫ

Колькі сіл каштавала Марыі звеставанне? Калі Яна яшчэ не жыла з Юзафам, стала цяжарнай. Іншымі словамі, зацяжарыла без удзелу мужа. У яўрэйскім законе здрада жанчыны азначала яе смерць праз укаменаванне. Таму мы можам толькі ўяўляць, колькі неверагоднай веры заключалася ў слове "Fiat".

Марыя змагла задушыць страх быць адкінутай сям'ёй і народам. Пазбавілася ад яго пры дапамозе чыстай і непахіснай веры. У той жа час закон і культура для Марыі былі вельмі важнымі, але не маглі перашкодзіць Ёй быць гатовай дзейнічаць і прымаць рашэнні ў адпаведнасці з воляй Стварыцеля. І гэта прыклад вялікай мужнасці і веры ў Божую апеку.

## УПЭЎНЕНАЯ, ШТО БОГ МАЕ ДОБРЫ ПЛАН

Само нараджэнне Езуса таксама прадстаўляе Марыю як моцную жанчыну. Кожная любячая мама хоча даць свайму дзіцяці поўную бяспеку, тым больш на пачатку яго дзён у гэтым свеце. А дзе прыйшоў у свет Яе Сын? У стайні, у чужым горадзе сярод варожых позіркаў жыхароў, бо ніхто не хацеў дапамагаць Святой Сям'і ў патрэбе. Цяжка ўявіць, як Марыя глыбока ў душы скардзіцца і бунтуецца супраць Стварыцеля.

Яна ведала, што павінна выканаць Божы план і спраўлялася ў любой сітуацыі. Узяць хаця б уменне не ператварыць стайню ў дом. Няпростымі былі і ўцёкі ў Егіпет: без дастатковых сіл пасля родаў, з мужам, з якім толькі нядаўна пазнаёмілася, на адным асле, праз пустынныя тэрыторыі, з дзіцём на руках. Напэўна, дарога шмат каштавала, але нішто не магло звярнуць Яе з гэтага шляху.

Калі любімы Езус згубіўся падчас паломніцтва ў святыню, Марыя праявіла мудрасць у выхаванні свайго Сына. Яна мае прэтэнзіі, але прымае, што патрэбы Дзіцяці таксама важныя. Ведае, што разумная свабода – гэта аснова, і не просіць аб большым. Спрабуе зразумець Яго матывы і Божы план.

## МОЦНАЯ Ў ПАКОРЫ

Незвычайную паставу Марыя дэманструе падчас грамадскай дзейнасці Езуса. Яна рэдка з'яўляецца ў Евангеллі. Мы амаль нічога не ведаем пра тое, што робіць Найсвяцейшая Маці. Але можам выказаць здагадку, што Яна вырашыла адступіць, каб вучэнне Хрыста не парушалася мацярынскімі патрэбамі. Пастава вялікай пакоры!

Маці часта хочуць прысутнічаць у жыцці сваіх дзяцей. Раіць, накіроўваць, выбіраць за іх і падказваць лепшы выбар. Марыя здолела ўзяць сябе ў рукі. Яна добра ведае, калі і дзе патрэбная. Стрымлівае свае натуральныя мацярынскія схільнасці і дазваляе Езусу дзейнічаць паводле ўласнага плана. Не пярэчыць, не шантажыруе эмацыянальна, каб Сын застаўся з Ёю. Знаходзіцца побач, але не "паглынае" сваёй прысутнасцю.

## БЯЗМЕЖНА ЛЮБЯЧАЯ

Не трэба апісваць сітуацыю Марыі падчас мукі і смерці Езуса. Гэты вобраз красамоўны без слоў. Аднак варта разважыць значэнне адной сцэны з-пад крыжа. Калі Езус гаворыць Марыі і Яну: "Вось Маці твая", "Вось Сын Твой", – Марыя становіцца Маці ўсіх людзей. У тым ліку і мучыцеляў свайго Сына, абвінаваўцаў, салдат, фарысеяў... І гэта неймаверны досвед, які выходзіць за рамкі чалавечых магчымасцей. Неймаверна для кагосьці, хто не спазнаў Божага кіраўніцтва, Яго моцы і адносін з Ім. Марыя, бясспрэчна, ведае, што такое безмоўная любоў, і нястомна нас гэтаму вучыць.

Маці Божая – моцная жанчына. І гэты сказ варта запомніць. Марыя дзейнічала, не здавалася, хаця Яе планы на жыццё разбурыліся. Не наракала, не абвінавачвала іншых ці самога Бога ў жыццёвых цяжкасцях. Яна была і ёсць адной вялікай актыўнай любоўю. Любіць нас з вышыні Неба і падтрымлівае ўласным прыкладам тут, на зямлі, жадаючы стаць непаўторнай заступніцай для кожнага чалавека.



Марыка Старановіч

*Марыя для мяне – прыклад усяго найлепшага, да чаго імкнуся, што адкрываю ў сабе; прыклад жаноцкасці, адданасці, чысціні, любові. Мая Сяброўка, блізкая ва ўсім. Мая Заступніца. Мая Каралева. Яркая Зорка ў маёй цемры. Яна такая блізкая, звычайная і адначасова – магутнай велічы і вышыні.*

*Колькі сябе памятаю, я ад малодшых гадоў мела пэўную сувязь з Марыяй. Сувязь настолькі натуральную, якая нібы прысутнічала заўсёды. Гэта як з матуляй: ты ведаеш, што яна ёсць, адчуваеш яе любоў і пяшчоту заўсёды, дзе б ты ні быў і чым бы ні займаўся. Без яе не ўяўляеш сябе. І я веру: усё добрае і павучальнае, што мае месца ў маім жыцці – няспынная дапамога і апека Марыі.*

*У студэнцкія гады я пазнаёмілася з постацямі святых з Кармэля: Тэрэзай ад Крыжа, Рафалам Каліноўскім. Моцна захапілася кармэліцкай духоўнасцю і трапіла на інфармацыю пра святы шкаплер. Даведалася, што ў горадзе, дзе я вучылася, служаць айцы кармэліты. І 7 гадоў таму афіцыйна далучылася да шкаплернага брацтва, прагнучы наследаваць цноты Марыі.*

*Адным з абавязкаў шанавальнікаў Маці Божай з гары Кармэль з'яўляецца штодзённае прамаўленне выбранай малітвы да Марыі. З яе пачынаю свой дзень. Люблю маліцца Ружанец. Хоць часам гэтая малітва даецца цяжка, я заўсёды адчуваю яе моц і плён. Часта малюся марыйнымі спевамі, разважаю асобныя радкі ці нават словы. Ёсць таксама некаторыя любімыя малітвы, абразы.*

*Маю адну незвычайную традыцыю: перыядычна ўпрыгожваю свой маленькі хатні алтарык новай выявай Маці Божай – і ўглядваюся, захапляюся Яе прыгажосцю. З найбольш упадабаных, напрыклад, Марыя, Развязваючая Вузлы, або Марыя Зорка Мора. Зараз маю абраз Марыі Сеўнай. Люблю проста разважаць над Яе жыццём, жыццём звычайнай жанчыны. Гэта нараджае блізкасць: адчуваю, што Марыя разумее мяне. Люблю проста кіраваць да Яе свае думкі, словы, прасіць, дзякаваць, дзяліцца смуткам і радасцю – усім, што маю ў сабе.*



Віталь Грышкевіч

*Марыя з'яўляецца для мяне духоўнай Маці. На маю думку, Яна дасканалы прыклад таго, як трэба чуць Бога і размаўляць з Ім. Узор чалавека: і для жанчыны, і для мужчыны. Можа скласціся ўражанне, што ў Марыі пераважае жаночы ідэальны вобраз, а я лічу, што Мадонна мае шмат рысаў, якія варта пераймаць мужчыне. Лепш за ўсё, мне здаецца, – улавіць мудрасць і прастату Яе захавання ў сям'і, супольнасці, Яе камунікаванне з Усявышнім пры зямным жыцці.*

*Варта таксама заўсёды пытаць Маці Божую, як быць у той ці іншай штодзённай сітуацыі, шукаць парады – і Яна не пакіне. Ва ўласным жыцці заўважаю шмат праяў міласці, знакаў увагі Марыі. Здараецца, напрыклад, губляю супакой і паддаюся страху. У такім выпадку малітва на Ружанцы вяртае ўнутраны супакой і ўраўнаважанасць. Дарэчы, Ружанец стараюся адгаворваць штодзень. А яшчэ мы з жонкай вырашылі прайсці 33 дні падрыхтоўкі поўнага прысвячэння сябе Хрысту праз Маці Божую.*

*Лічу, што ўшанаванне Марыі з'яўляецца ўшанаваннем Хрыста, і наадварот. Увогуле, гэта праяўляецца ў любым спосабе прытрымлівацца асноўных евангельскіх норм і законаў, у іх увасабленні ў жыццё і імкненні да святасці.*

*Ангеліна Марцішэўская*

# Маці Божая заклікае да ўзнагароджання за грахі

***Ва ўмовах пандэміі каранавіруса ўрачы і ўся служба аховы здароўя прысвячае сябе справе выратавання людзей, ставячы пад пагрозу нават уласнае жыццё. Толькі ў Італіі памерлі больш за 90 урачоў і некалькі дзесяткаў медсясцёр, а таксама больш за 100 духоўных асоб. Дзяржаўным парламентам належыць як мага хутчэй выключыць са сваіх Прававых кодэксаў пункты, якія адабраюць грахі і адхіленні. А што можам зрабіць мы?***

## ВЯЛІКАЯ ПАТРЭБА ВА ЎЗНАГАРОДЖАННІ

Марыя, Маці Міласэрнасці, у сваіх аб'яўленнях, прызнаных Касцёлам, заклікае да экспіяцыі за грахі: да ахвяравання сваіх цярпенняў у інтэнцыі ўзнагароджання за грахі, да малітвы аб навяртанні грэшнікаў. Экспіяцыя, ці інакш узнагароджанне, заключаецца ў эфектыўным заступніцтве, так, каб няміласць, звязаная са злом, не ўпала на таго, хто яго ўчыніў. Правільна зразуметая экспіяцыя паказвае адкрытасць Бога, які шукае сродкаў, каб няшчасце, якое суправаджае грэх, не закранула грэшніка.

Сёння чалавек добра ведае, што парушэнне законаў караецца згодна з заканадаўствам краіны. Аднак калі гаворка ідзе пра парушэнне вечнага Божага закона, г. зн. пра грэх, многія людзі лічаць, што ён не можа быць пакараным, таму што гэта несумяшчальна з бясконцай Божай міласэрнасцю. Іншымі словамі, існуе перакананне, што грашыць можна беспакарана, бо Бог добры. Аднак такое мысленне супярэчыць Святому Пісанню, а таксама вучэнню Касцёла. Біблія і Касцёл адназначна сцвярджаюць, што кожны грэх ужо сам у сабе ўключае кару. У Катэхізісе гаворыцца: "Пакаранні нельга разглядаць як помсту, якую Бог выкарыстоўвае звонку, бо яны выцякаюць нібы з самой прыроды граху" (ККК 1472).

Услухаемся ў словы Нябеснай Маці з аб'яўленняў у Лурдзе і Фаціме. Яна не супакойвае людзей банальным "усё будзе добра", нават калі трываем у грахах, а адназначна падкрэслівае, што грэшнікі павінны навярнуцца, а вернікі павінны за гэта шмат маліцца і ахвяраваць свае пакуты. Маці Божая як наша Маці настойвае і патрабуе гэтага ад нас. Аднак мы сёння ўсё больш і больш прызвычайваемся да грахоў, пачынаем прымаць грэшныя паводзіны, не настаўляем грэшнікаў і не жадаем іх навяртання. Кажам: "А можа, так і трэба? Сёння ж людзі жывуць «па-новаму»". Такім чынам становімся святлом без святла і соллю без смаку. Не бачым неабходнасці кампенсацыі за грахі, якія паступова становяцца маральнай нормай. А Марыя разлічвае на нас, як на Божых дзяцей, што разам з Ёю будзем удзельнічаць у справе ўзнагароджання Богу за абразы, у справе ратавання грэшнікаў.

## ПАКАЯННЕ! ПАКАЯННЕ! ПАКАЯННЕ!

Галоўнай мэтай аб'яўленняў Маці Божай у Лурдзе было навяртанне грэшнікаў. Марыя паказала Бернадэце страшную карціну чалавечых грахоў і раскрыла перад ёй неадкладную патрэбу ўміласціўлення Нябеснага Айца. "Прасіце Бога аб навяртанні грэшнікаў". Потым спыталася, ці "цяжка ёй было б стаць на калені і пацалаваць зямлю ў акце пакаяння за грэшнікаў". Найсвяцейшая Маці з вялікім сумам усклікала: "Пакаянне! Пакаянне! Пакаянне!", – і Бернадэце наказала так заклікаць людзей.

Заклікам да ўзнагароджання распачаліся аб'яўленні ў Фаціме. Дзецям з'явіўся Анёл, які трымаў у руцэ вогненны меч. Паказваючы правай рукой на зямлю, ён сказаў моцным голасам: "Пакаянне, пакаянне, пакаянне!". Павучаў дзяцей: "З усяго, што можаце, складвайце Богу ахвяры як узнагароджанне за грахі, якімі Яго абражаюць, і за навяртанне грэшнікаў. Такім чынам вы прыцягнеце мір у сваю Радзіму... Перш за ўсё, прымайце і пераносьце пакуты, якія Бог пашле вам". Вучыў маліцца ў паставе адарацыі, дакранаючыся лбом да зямлі: "Божа мой, я веру ў Цябе, пакланяюся, давяраю і люблю Цябе. Прашу прабачэння для тых, хто ў Цябе не верыць, не пакланяецца, не давярае і Цябе не любіць".

"Фаціма – гэта ўзнагароджанне, узнагароджанне, а перш за ўсё, узнагароджваючая Эўхарыстыя і св. Камунія", – гаварыў біскуп з Фацімы Жуан Венэнсіа. У чарговым аб'яўленні Анёл прыйшоў з келіхам у руцэ, над якім лунала святая Гостыя, а з яе ў келіх сцякалі кроплі крыві. У паставе адарацыі ён дакрануўся лбом да зямлі, тройчы паўтараючы з дзецьмі малітву: "Найсвяцейшая Тройца, Айцец, Сын і Святы Дух, у глыбокай пакоры я пакланяюся Табе і ахвярую найдаражэйшае Цела і Кроў, Душу і Боства Езуса Хрыста, прысутныя на алтарах усяго свету, як кампенсацыю за знявагі, святатацтва і абыякавасць, якімі Яго крыўдзяць. Праз бясконцыя заслугі Яго Найсвяцейшага Сэрца і Беззаганнага Сэрца Марыі прашу Цябе аб навяртанні бедных грэшнікаў". Удзяляючы дзецям св. Камунію, Анёл сказаў: "Бярыце і піце Цела і Кроў Езуса Хрыста, жорстка зняважанага няўдзячнымі людзьмі. Узнагароджвайце правіны і суцяшайце свайго Бога".

Падчас першага аб'яўлення ў Фаціме Марыя пытаецца ў дзяцей: "Ці хочаце вы ахвяравацца Богу, каб пераносіць усе пакуты, якія Ён пашле вам як узнагароджанне за грахі, якімі Яго крыўдзяць, і як просьбу аб навяртанні грэшнікаў?". "Так, мы хочам!", – адказала Луцыя ад імя ўсіх. "Вам давядзецца шмат пакутаваць, але Божая ласка будзе вашай сілай!", – сказала Марыя.

Велічыня ўзнагароджання і кампенсацыі была агучана ў наступным аб'яўленні, калі дзеці атрымалі бачанне пекла. Марыя прасіла іх аб заступніцкай малітве і шматлікіх ахвярах: "Маліцеся, маліцеся шмат, складайце ахвяры за грэшнікаў, бо многія душы ідуць на вечнае асуджэнне, бо не маюць нікога, хто б за іх ахвяраваўся і маліўся".

Луцыя ўспамінае: "Падчас аб'яўлення ў ліпені Найсвяцейшая Маці дала нам даручэнне, якое з таго часу стала прынцыпам майго жыцця: «Складвайце ахвяры для грэшнікаў. Асабліва тады, калі ахвяруеце свае адрачэнні, кажыце: О Езу, я раблю гэта з любові да Цябе і як узнагароджанне за грахі, здзейсненыя супраць Беззаганнага Сэрца Марыі»".

Св. Фаўстына Кавальская мела падобнае натхненне да экспіяцыйнай малітвы. У яе таксама было бачанне Анёла, які прыйшоў пакараць зямлю за грахі. Убачыўшы гэты знак Божага гневу, сястра пачала прасіць, каб ён яшчэ стрымаўся, і свет пакаецца. Аднак калі стала перад абліччам Святой Тройцы, не адважылася паўтарыць гэтую просьбу. Толькі калі адчула ў сваёй душы моц ласкі Хрыста, пачала маліцца словамі, якія пачула ўнутрана (гэта былі словы Вяночка да Божай міласэрнасці). І тады ўбачыла, што пакаранне ад зямлі адсунута. На другую раніцу, калі ўвайшла ў капліцу, Пан Езус яшчэ раз паказаў ёй, як іменна трэба прамаўляць гэтую малітву.

## ЯК Я МАГУ КАМПЕНСАВАЦЬ БОГУ ЗА ГРАХІ?

Хоць кожны з нас грэшны чалавек, усё ж, можам і павінны кампенсаваць Богу за тое, што замест любові і ўдзячнасці Ён сутыкаецца з непрыманнем, ігнараваннем, высмейваннем, зневажэннем Яго з боку людзей. Той, хто любіць Бога, нейкім чынам выкажа Яму сваю любоў, каб так узнагародзіць Яму.

Гэтая простая духоўнасць – выкарыстанне ўсяго, што нясе нам жыццё, для кампенсацыі Богу за людскія грахі. Гэта таксама прыняцце цярпення, якое пасылае Усемагутны, для выратавання іншых людзей ад вечных пакут у пекле. Пакаянныя ўчынкі не павінны быць неардынарныя, гераічныя. Гаворка, у першую чаргу, пра нашы штодзённыя цярпенні.

Луцыя распавядае пра візіт да хворай Гіяцынты ў бальніцы: "Я застала яе радаснай, як звычайна. Яна абняла мяне, а я спыталася, ці моцна пакутуе. «Так, – адказала, – я пакутую, але ахвярую гэта за грэшнікаў і ў якасці ўзнагароджання Беззаганнаму Сэрцу Марыі»".

"Цяпер я радуюся за вас у цярпеннях і дапаўняю недахоп у маім целе пакут Хрыста за Яго цела, якім ёсць Касцёл" (Кал 1, 24), – сказаў св. Павел. У сітуацыі сённяшняй пагрозы пандэміі асабліва актуальны заклік Марыі да ўзнагароджання за грахі. Папросім Святога Духа, і Ён падкажа кожнаму з нас, як гэта рабіць.

*Кс. Тадэвуш Крыштопік*

---

З КАТАЛІЦКІХ СМІ

CATHOLIC.BY

### *Праз заступніцтва святой мучаніцы*

***Кс. бп Алег Буткевіч асвяціў у віцебскім касцёле св. Барбары абраз апякункі святыні.***

*Св. Барбара ўшаноўваецца як у Каталіцкім Касцёле, так і ў Праваслаўнай Царкве. Праз яе заступніцтва людзі звяртаюцца да Бога асабліва падчас розных эпідэмій і цяжкіх хвароб, а таксама просяць аб захаванні ад раптоўнай і неспадзяванай смерці.*

*З новаасвечаным абразом біскуп аб'ехаў усе гарадскія бальніцы Віцебска і благаславіў іх, узносячы свае малітвы за ўсіх цяжкахворых, просячы Бога аб іх аздараўленні, а таксама аб дары асягнення Неба для паміраючых. Між іншым, іерарх маліўся за медыкаў і Касцёл у Беларусі.*

GOŚĆ NIEDZIELNY

### *Прапаганда культуры смерці*

***Вярхоўны Суд Нідэрландаў выдаў вердыкт аб легалізацыі эўтаназіі асоб з дэменцыяй. "Яна можа быць праведзена таксама ў сітуацыі, калі пацыент не здольны выразіць сваю волю", – гаворыцца ў заяве трыбунала.***

*Абаронцы жыцця папярэджваюць, што гэта цалкам адмаўляе свабоду пацыента і парушае яго асноўныя правы. Яны таксама перасцерагаюць ад увядзення г. зв. "завяшчання жыцця", якое некаторыя краіны хочуць легалізаваць, таму што, як паказвае гісторыя, яно можа стаць смяротнай пасткай.*

*Эўтаназія легалізавана ў Нідэрландах ужо 20 гадоў.*

niedziela TYGODNIK KATOLICKI

### *"Жаночая" Кніга кніг*

***У Польшчы выдадзена першая Біблія для жанчын.***

*Выданне ўключае ў сябе поўны тэкст Святога Пісання ў апошнім перакладзе з арыгінальных моў, здзейсненым па ініцыятыве Таварыства св. Паўла Таварыствам польскіх біблістаў. Яго асаблівасцю з'яўляюцца разважанні, напісаныя жанчынамі – вядомымі тэолагамі і біблістамі, спецыялісткамі ў галіне псіхалогіі і педагогікі. Унікальнай рысай пазіцыі з'яўляецца якасць і стыль публікацыі. Каляровыя, поўныя дынамізму ілюстрацыі паказваюць разнастайнасць паклікання жанчын і іх дарог да Бога.*

*Біблію можна набыць у стацыянарных кнігарнях і ў інтэрнэт-краме edycja.pl.*




## Як перажыць крызіс веры?

*Неабходна адзначыць, што амаль кожны чалавек у нейкі момант жыцця перажывае крызіс веры. Думае, што Бог пакінуў, або не адчувае Яго прысутнасці. Але Усявышні ніколі не пакіне чалавека, гэта ён сам часам ставіць перашкоды на шляху да свайго сэрца. Можа быць, таму Гасподзь вядзе нас такімі цяжкімі дарогамі, каб Яго знайшлі. Можа быць, некаторыя грахі, якія баімся прызнаць у сабе, душаць нас? Калі далёка ад Бога, то нехта замяняе Яго? Важна прызнацца сабе, каму служым. І не спыняцца напаўдарозе. Ісці далей, пастаянна вяртаючыся да Стварыцеля праз сакраманты.*

*Вера – самае галоўнае для чалавека. Абавязак кожнага заключаецца ў тым, каб паступаць у згодзе са сваім сумленнем і шукаць ісціну. Калі будзем верныя гэтым прынцыпам, можам быць спакойнымі. Горш, калі не заўважылі, што губляем нешта вельмі важнае.*

*Наступным крокам для чалавека, які мае праблемы з верай, з'яўляецца ўсведамленне, што яна прадстаўляе сабой рашэнне, інакш – заснавана на пазнанні Бога і на сведчанні іншых людзей. Можам пазнаваць Бога, чытаючы Святое Пісанне і слухаючы людзей, прапаведаваць Божае слова, а таксама ўмацоўвацца ў сакрамантах. На мой погляд, пошук праўды заключаецца ў пошуку асобы ці абшчыны, якія з'яўляюцца надзейнымі сведкамі веры і якім можам распавесці пра нашы сумненні. Іншая магчымасць – гэта пошук адказаў на сумненні ў рэлігійнай літаратуры.*

*Пазнанне Бога і ўмацаванне веры патрабуе вялікіх намаганняў. Зразумела, што вера – Божы дар. Тое, што хтосьці называе сябе вернікам, азначае, што ён гэты дар прыняў. Але Бог не адмаўляе нікому ў такой ласцы, і адорвае ёю ў залежнасці ад таго, калі палічыць гэта мэтазгодным. Чалавек, чыя вера слабее, павінен маліцца аб дары веры.*

*Такім чынам, рэцэпт у крызісе веры зводзіцца да 4-ох пунктаў:*

*1. Не панікуйце.*

*2. Паступайце згодна са сваім сумленнем.*

*3. Шукайце ісціну.*

*4. Маліцеся аб дары веры.*

*Узнікае пытанне: ці можа чалавек, які верыў, але цяпер перажывае крызіс, удзельнічаць у рэлігійных практыках? Гэта вельмі важнае і складанае пытанне. Чалавек, чыё сумленне гаворыць, што ён не верыць у Бога, не можа атрымаць сакрамант. Але трэба быць вельмі асцярожнымі ў падобных меркаваннях. Вера караніцца ў нас больш глыбока, чым думаем. Можа быць так, што Святы Дух праз крызіс вядзе чалавека да сакрамантаў (перш за ўсё, да споведзі), таму што толькі праз іх прыняцце аднаўляецца вера. Хто перажывае крызіс веры, але, тым не менш, разумее, што сакраманты – гэта дапамога для веруючых людзей, павінен шукаць умацавання ў сакрамантах.*

*Кс. Андрэй Радзевіч*
***Паводле grodnensis.by.***

*З Богам праз штодзённасць*



# Сам-насам з Богам. Каштоўнасць маўчання

Разам з жаданнем штосьці напісаць пра св. Яна Паўла II кожны раз узнікае разгубленасць: а што я ўвогуле ведаю пра яго? Біяграфію больш-менш? У памяці паўстае постаць Папы на кадрах тэлевізійных трансляцый, натоўпы, якія яго атачалі, фразы, што сталі крылатымі...

Нядаўна мне на вочы трапіла кароткае відэа сустрэчы папы Яна Паўла II з моладдзю ў Кракаве (Польшча) падчас пілігрымкі ў 1979 годзе. У самым пачатку ён сказаў: "Я ўсё думаю, што азначаюць гэтыя апладысменты?". Напэўна, Ян Павел II ведаў, што такое энтузіязм, захапленне і радасць сустрэчы. Але, здаецца, чакаў большага, і не толькі ад тых маладых людзей, але ад усіх, з кім спатыкаўся: разумення і дзейснай падтрымкі, супрацоўніцтва ў служэнні Богу і людзям.

Сёлета – у год, прысвечаны св. Яну Паўлу II, – ёсць добрая нагода ўзгадаць яго мары аб свеце без войнаў і несправядлівасці, аб хрысціянах, якія жывуць у братэрстве, аб моладзі, якая не баіцца высокіх прагненняў... Спіс можна працягваць доўга, вядома. Што стала з гэтымі марамі? Калісьці здавалася, што словы Яна Паўла II падаюць на добрую глебу. Сёння варта азірнуцца і паглядзець, ці парупіліся мы аб плёне або, прынамсі, аб парастках?

У нашы дні Папа ўжо не прыедзе з пілігрымкай, не растлумачыць таго, што за жыццё не паспеў, не напіша ліст да тых, хто хацеў бы спытацца: "І што цяпер, Святы Ойча, што цяпер?". Засталося, бадай што, самім вырушыць у пілігрымку па яго творах і адкрыць іх нанова, як гарады і краіны. І калі жэсты і ўчынкі св. Яна Паўла II былі красамоўнымі самі па сабе, то чытанне яго спадчыны патрабуе засяроджанасці і ўдумлівасці.

Гэтак няспешна і ўважліва прапаную прачытаць яго думку пра маўчанне. Але спачатку будзе іншая цытата: "Узрастае чаканне слова як абуджэння, вызвалення, адкрыцця сэнсу. Мова – шум; слова – мадуляцыя цішыні. Вера жыве словам, яна прыходзіць у заняпад ад гаварэння. Сапраўднае слова – гэта слова жыцця, патаемнае і перадаваемае з цяжкасцю. Яно належыць людзям цішыні і спачування і нараджаецца ў творчым святкаванні жыцця і прыгажосці" – з кнігі Аліўе Клемана "Водбліскі Святла. Праваслаўная тэалогія прыгажосці". Чаму "праваслаўная"? Таму што пра каштоўнасць маўчання св. Ян Павел II піша ў 1995 годзе ў апостальскім лісце "Orientale Lumen" ("Святло Усходу"), у якім стараецца наблізіць заходнім хрысціянам багацце ўсходняй традыцыі: "Трэба прызнаць, мы ўсе патрабуем таго маўчання, пранізанага прысутнасцю Бога, якога адаруем: яго патрабуе тэалогія, каб магла ўпоўні развіць свой павучальны і духоўны характар; яго патрабуе малітва, каб ніколі не забывалася, што бачанне Бога азначае сыходжанне з гары з тварам настолькі прамяністым, што трэба яго прыкрыць заслонай (параўн. Зых 34, 33), і каб нашы супольнасці былі здольныя зрабіць месца для Божай прысутнасці, пазбягаючы самаўсхвалення; яго патрабуе прапаведаванне, каб мы не падманвалі саміх сябе, што шматслоўнасцю можна наблізіць людзей да досведу Бога; патрабуе яго чалавечы высілак, каб не замкнуцца ў змаганні без любові і прабачэння. Патрабуе яго, нарэшце, сучасны аглушаны шумам чалавек, які часта не ўмее маўчаць, бо баіцца спаткаць самога сябе, адкрыць пустку, якая з'яўляецца пытаннем пра сэнс. Усе, веруючыя і няверуючыя, павінны навучыцца маўчанню, якое дазволіць Богу прамаўляць, калі і як Ён пажадае, а нам – разумець Яго слова" (OL, 16).

Бог, які ёсць паўсюль і заўсёды, нястомна прамаўляе да чалавека. Тым не менш, ад нас залежыць, ці клапоцімся аб прасторы для Яго прысутнасці. Ці звяртаем увагу на тое, як Ён звяртаецца да нас? Не толькі праз выразнае слова, праз значныя падзеі ці нават цуды, але праз саму штодзённасць, якая можа стаць у святле Пасхі "творчым святкаваннем жыцця і прыгажосці". Тэалогія і мудрае прапаведаванне патрабуюць не ўдасканаленага гаварэння, а слоў, якія нарадзіліся ў маўчанні перад Богам, у слуханні, у адарацыі. На думку Яна Паўла II, досвед Бога немагчыма даць і нават наблізіць праз шматслоўнасць. У наш час гэта стала яшчэ больш актуальным. З распаўсюджаннем сацыяльных сетак, здаецца, кожнаму ёсць што сказаць, і "трыбуна" з глабальным абсягам ужо падрыхтаваная. Аднак, на самой справе, слоў стала столькі, што сэнс сказанага ўжо мала каго кранае. Магчыма таму, што занадта часта там яго і няма...

Затое ёсць змаганне за ўвагу, за бачны вынік, за пахвалу, у канчатковым рахунку. Без маўчання і ўсведамлення велічы Бога, які з'яўляецца Крыніцай усіх дароў, і малітва, і жыццё ў супольнасці стануць нязноснымі, бо кожны будзе захапляцца толькі самім сабой і патрабаваць ад іншых адпаведных знакаў прызнання. Будзем тады да апошніх сіл зацята змагацца "без любові і прабачэння", але не зразумеем, чаму ўнутры толькі нарастае пустка і расчараванне. Колькі б нас ні хвалілі, будзе замала. Эгаізм ненасытны! Трэба вучыцца паставе адарацыі, аб якой піша св. Ян Павел II, каб з пакорай прыняць, што Бог застаецца для нас неспасціжным нават у тым выпадку, калі, як Майсей, сустрэнемся з Ім падчас малітвы "тварам да твару" (параўн. Дрг 34, 10).

Тую пустку, якую баімся адкрыць у сабе, можа запоўніць толькі Бог, бо яна сапраўды велізарная. Аднак дзеля таго, каб зразумець, што гэта туга па Богу, патрэбна тое маўчанне, якое дазволіць Яму прамаўляць, а нам – пачуць тое адзінае Слова, у якім ёсць святло, непадуладнае цемры.

Як навучыцца маўчанню, якое дае месца Богу, св. Яне Паўле?

*Тэрэса Клімовіч*




***Аляксей Заічанка,** алюмн 1 курса Гродзенскай ВДС*
*Паходзіць з парафіі Унебаўзяцця НПМ у Пінску*

# Толькі наперад і з Богам!

**Цяжкасці не павінны засмучаць. Дзякуючы ім можна стаць яшчэ больш моцнымі і свядомымі.**

### ПРА ПАКЛІКАННЕ

Першыя думкі аб тым, каб стаць святаром, да мяне прыходзілі яшчэ калі служыў міністрантам у пінскай катэдры. Глядзеў на святароў і хацеў быць падобным да іх. На мой светапогляд вельмі паўплывалі светлай памяці кард. Казімір Свёнтэк і пробашч роднай парафіі кс. Станіслаў Паўліна. Прыкладам свайго жыцця яны паказвалі ўзор, якім павінен быць сапраўдны душпастыр. Было бачна, што святары жывуць тым, аб чым гавораць. І я так хацеў.

Пасля школы паступіў у Беларускі дзяржаўны аграрны тэхнічны ўніверсітэт. На апошнім курсе стаў сур'ёзна задумвацца, што далей рабіць у жыцці. Было вялікае жаданне дапамагаць людзям, і з гэтым вярталася думка пра святарства. Але адчуваў нейкі страх перад такім адказным рашэннем і звычайнае жаданне мець сям'ю. Можна сказаць, стаяў перад дылемай. Акурат тады сустрэў чалавека, які распавёў пра катэхетычны каледж у Баранавічах, што ёсць магчымасць быць сямейным кансультантам ці катэхетам. Я сказаў Богу: "Дапамагаць людзям можна не толькі будучы святаром!" – і паступіў у каледж.

Працуючы на "Радыё Марыя" ў Мінску, я завочна вучыўся ў каледжы і далей разважаў над сваім жыццёвым пакліканнем. Быў шэраг знакаў, якія дапамаглі прыняць няпростае рашэнне. Урэшце рэшт, скончыўшы 2 курсы каледжа, я паступіў у семінарыю.

### ПРА СЕМІНАРЫЮ

Семінарыя – гэта дом распазнання паклікання, а не месца, дзе "вучаць на святароў". Пэўныя ўмовы, дысцыпліна, супольныя малітвы, спевы, вучоба, праца і адпачынак могуць дапамагчы ва ўзрастанні на шляху да святарства.

Семінарыя з'яўляецца сэрцам дыяцэзіі, якое пульсуе з новай сілай з кожным новапасвечаным святаром.

### ПРА ЦЯЖКАСЦІ

У жыцці чалавека шмат цяжкасцей, і іх немагчыма прадказаць, але можна паспрабаваць падрыхтавацца. У семінарыйным жыцці, мне здаецца, цяжкасцей не шмат у параўнанні з жыццём па-за семінарыяй. Аднак ёсць свае выпрабаванні. Таму мы, семінарысты, вучымся іх перадольваць, бо ведаем, што выпрабаванне нашай веры нараджае цярплівасць (параўн. Як 1, 2–4).

### ПРА СВЯТАРСТВА

Святарства – гэта служэнне па прыкладзе Езуса Хрыста. Яно зыходзіць з любові да Пана Бога і праяўляецца ў адданай паслузе бліжнім. Апостал Павел гаворыць: "І ўжо не я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос" (Гал 2, 20). Таму і святар пакліканы служыць Касцёлу, бо і Сын Чалавечы не для таго прыйшоў, каб Яму служылі, але каб служыць (параўн. Мц 20, 28).

### ДУМАЮ, ШТО...

Калі Ты маеш намер наконт таго, каб прысвяціць сваё жыццё служэнню Богу і людзям праз святарства ці манаства, варта адважыцца і пайсці за голасам Пана, які кліча. Нават калі вагаешся і маеш сумненні адносна свайго паклікання, то за час фармацыі зможаш разгледзець і асэнсаваць гэты дар.

НАВІНЫ



## УРУЧЭННЕ МІСІЙНАГА КРЫЖА

Кс. Анджэй Ганчар атрымаў у сваёй роднай парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе бласлаўленне і місійны крыж з рук генеральнага вікарыя Гродзенскай дыяцэзіі кс. б-па Юзафа Станеўскага. У бліжэйшы час ён распачне паслугу ў Цэнтральна-Афрыканскай Рэспубліцы, да якой рыхтаваўся падчас гадавога навучання ў Цэнтры місійнай фармацыі ў Варшаве (Польшча).

Кс. Анджэй Ганчар нарадзіўся 18 верасня 1991 года. Святарскае пасвячэнне атрымаў з рук кс. б-па Аляксандра Кашкевіча 29 красавіка 2017 года. Будучы клерыкам служыў у Казахстане, а дыяканам – у Камеруне.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч у прыватным парадку наведаў Дыяцэзіяльны санктуарый Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь). У святыні іерарх цэлебраваў св. Імшу ў інтэнцыі ўсёй дыяцэзіі з нагоды 29-ай гадавіны яе заснавання, а таксама памаліўся аб спыненні пандэміі каранавіруса, якая пануе ў свеце.

### НАМІНАЦЫІ



Кс. Павел Звяжынскі вызвалены ад абавязкаў пробашча парафіі св. Юрыя ў Варнянах (дэканат Астравец) і прызначаны пробашчам парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.

Кс. Віктар Захарэўскі вызвалены ад абавязкаў пробашча парафіі святых Анёлаў Ахоўнікаў у Раготне, адміністратара парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Стараельні і адміністратара парафіі Божага Цела ў Дварцы (дэканат Дзятлава) і прызначаны пробашчам парафіі св. Юрыя ў Варнянах.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Кс. бп Аляксандр Кашкевіч звярнуўся да дыяцэзіян з просьбай маліцца аб дажджы. • У сувязі з эпідэміялагічнай сітуацыяй урачыстасці канфірмацыі ў дыяцэзіі пераносяцца на пазнейшы час, а Першай св. Камуніі – на восень. • Разам з атэлье "Майстар моды" ў Гродне дабрачыннае таварыства "Карытас" распачало пашыў ахоўных масак для твару. • У Шчучыне прайшлі анлайн-выбары міністранта і харыста года.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі* ***grodnensis.by.***

## Каляндар падзей

***3 мая***
***Дыяцэзіяльны дзень маці.***
*Молімся ў інтэнцыі жывых і памерлых мам.*
***Дзень імянін кс. б-па Аляксандра Кашкевіча, пастыра дыяцэзіі.***
*Даручаем у малітве шаноўнага Імянінніка.*

***6 мая***
*Свята свсв. апосталаў Філіпа і Якуба.*

***8 мая***
*Успамін св. Станіслава, біскупа і мучаніка.*

***9 мая***
*Дзень малітвы за ахвяр II Сусветнай вайны і аб супакоі ва ўсім свеце.*

***14 мая***
*Свята св. апостала Мацея.*

***16 мая***
*Успамін св. Андрэя Баболі, прэзбітэра і мучаніка.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Май***
*Аб ахове ад зла і разбэшчанасці нашых дзяцей. У інтэнцыі навяртання распуснікаў і тых, хто распаўсюджвае насілле адносна малых.*

*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Актуальныя навіны, фота, відэа.*
*Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**4 мая 1967 г.** – кс. Ян Вінажэндзіс, *проб. Нача;*
**7 мая 1944 г.** – кс. Яраслаў Войдат, *проб. Ліпнішкі;*
**7 мая 1996 г.** – кс. інфулат Станіслаў Кучынскі, *рэктар ВДС, ген. вік. Гродна;*
**12 мая 1977 г.** – кс. Клеменс Піваварун, *проб. Васілішкі;*
**13 мая 1948 г.** – кс. Валяр'ян Голяк, *проб. Ашмяны.*

● *працяг са с. 1*

# З ЧАЛАВЕКАМ ДА АПОШНЯГА

### Я ПАЙДУ!

Кс. Алег нарадзіўся ў 1973 годзе ў в. Падгалішкі, якая належыць да парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Забалаці (дэканат Радунь). Будучы юнаком цвёрда вырашыў стаць святаром.

***"Кс. Алега я ведаў са школы, таму што паходзім з той самай парафіі,*** – узгадвае кс. кан. Ян Кучынскі. – ***Памятаю, як ксёндз пробашч вясной 1991 года паехаў асвячаць прыдарожны крыж у Падгалішках, роднай вёсцы кс. Алега. Пасля асвячэння сказаў, што цяпер настала рэлігійная свабода і што ў Гродне ёсць духоўная семінарыя: можа, хтосьці з моладзі пайшоў бы туды вучыцца. Тады Алег зрабіў крок уперад і сказаў: «Я пайду». На наступны дзень прыйшоў у касцёл, каб служыць на Імшы. Так распачалося наша сяброўства... З таго часу ён кожную нядзелю прыязджаў веласіпедам ці прыходзіў пешга 6 кіламетраў да Забалаці. Быў хлопцам простым, але непахісным у сваіх пастановах".***

У семінарыі ў кс. Алега пачаліся праблемы з горлам. Доўга лячыўся. Штодзённа мусіў уставаць раней за ўсіх, каб зрабіць неабходныя працэдуры і магчы днём размаўляць. Урачы не давалі шансаў, сцвярджалі, што страціць голас. Было цяжка, але здолеў выкладвацца на ўсе 100%.

У 1997 годзе скончыў Гродзенскую ВДС. У 1999 годзе атрымаў прэзбітэрскае пасвячэнне з рук біскупа Аляксандра Кашкевіча. Вельмі цешыўся абраным шляхам, тым, што стаў на дарогу святарства.



Падчас кананічнай візітацыі ў парафіі, 2018 г.

### НЕ ШКАДАВАЎ СЯБЕ

Кс. Алег распачаў служэнне вікарыем у сваёй роднай парафіі ў Забалаці. Адначасова абслугоўваў парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Начы, Божай Міласэрнасці ў Доцішках і св. Юрыя ў Асаве. З 2000 года нёс паслугу ў якасці пробашча ў парафіі ў Начы. У 2007 годзе быў прызначаны пробашчам парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску і дэканам Ваўкавыскага дэканата.

***"Памятаю, як прыехалі ў Ваўкавыск, каб паглядзець на праблемную будоўлю касцёла. Скажу шчыра, я быў у шоку ад таго, што ўбачыў,*** – распавядае кс. Ян Кучынскі. – ***А кс. Алег хадзіў вакол, прыглядаўся і нарэшце сказаў, што гатовы ўзяцца і скончыць будаўніцтва. Мяне ўразіў яго энтузіязм: вочы ззялі ад жадання працаваць".***

Святару даводзілася няпроста. Ездзіў трактарам па лясах, збіраў металалом, прадаваў, а вырučаныя сродкі аддаваў на будаўніцтва святыні. Не шкадаваў ні здароўя, ні сіл. Быў вельмі ўпарты і адказны ў дасягненні пастаўленых задач.

У справу ўзвядзення касцёла з запалам уключыліся многія вернікі. Дапамагала моладзь і нават дзеці, якім даверылі простыя работы. ***"Усе былі заняты працай. Хто што ўмеў, тое і рабіў. Кс. Алег заўсёды ўмела размяркоўваў абавязкі. Але і сам не заставаўся ў цені – таксама працаваў плячо ў плячо з парафіянамі і тымі з нас, хто прыязджаў з другой парафіі да дапамогу",*** – успамінае Аліна Пяценка.

***"Ужо цяпер, гледзячы на яго кароткае жыццё і аналізуючы ўсю гісторыю, выглядае так, быццам ён быў спецыяльна пакліканы да гэтай місіі. Скончыў яе і быў забраны Богам",*** – разважае кс. Ян.

### ЧАЛАВЕК МАЛІТВЫ

Кс. Алег быў тым, хто не баяўся браць крыж і ісці за Хрыстом. ***"Ён аддана будаваў касцёл з цэглы і з сэрцаў вернікаў. Хацеў, каб у Ваўкавыску паўстала яшчэ адна святыня,*** – гаворыць кс. Павел Звяжынскі. – ***Быў добрым калегам. Заўсёды ахвотна падмяняў святароў-суседзяў. Цешыўся, калі людзі гарнуліся да Бога".***

Душпастыр імкнуўся данесці Евангелле да як мага большай колькасці людзей. Арганізоўваў для парафіян (а таксама для ўсіх жадаючых дыяцэзіян) пілігрымкі па святых месцах. Калі для кагосьці кошт быў непасільным, святар прапанаваў ехаць "у растэрміноўку": рэшту аддаць, калі будзе магчымасць. Такім чынам, многія вернікі пабывалі там, дзе маглі толькі марыць.

У дарозе заўсёды гучала малітва. Святар стараўся штодзень адпраўляць св. Імшу для пілігрымаў. Як прызнаюцца самі вернікі, шмат хто з іх падчас паездак наблізіўся да Бога, паглыбіў сваю веру.

Кс. Алег часта маліўся Ружанцам. Як штосьці не ўдавалася, гаварыў, што "Маці Божая ўсё паставіць на месца". Так і было. ***"Ён і дзяцей вучыў шанаваць ружанцовую малітву,*** – распавядае Жана Абрамчук. – ***Заахвочваў іх штодня прыносіць у дар для Марыі 10 прыгожых руж. Пасля бацькі тэлефанавалі ксяндзу і пыталі: куды трэба прынесці гэтыя ружы. Ксёндз смяяўся і гаварыў, што мае на ўвазе адзін дзесятак ружанца... Ён быў вельмі просты і цудоўны, Божы чалавек".***

### ЧУЖОЕ НЯШЧАСЦЕ – МАЁ НЯШЧАСЦЕ

Парафіяне адзначаюць, што іх пробашч быў добрым, сціплым, уважлівым. З ім прыемна і лёгка было размаўляць. Святар валодаў унутраным спакоем, які перадаваўся кожнаму, хто меў з ім справу. Быў сардэчным, чулым і спагадлівым да людзей.

***"Больш за 8 гадоў таму цяжка захварэла мая гадавалая дачка,*** – распавядае Іна Каплінская. – ***Не дапамагаў ніводзін антыбіётык. Ставілі кропельніцы, каб хоць на некаторы час збіць высокую тэмпературу. З кожным днём дачцэ станавілася ўсё горш. Дзіця згасала на вачах... І аднойчы мая мама падзялілася гэтым болем з кс. Алегам, які набываў у яе на рынку садавіну. Святар аператыўна адрэагаваў і паспрыяў таму, каб нас з дачкой прынялі ў сталічнай бальніцы. Далей усё склалася так, што пайшлі на папраўку і выздаравелі. Цуд! Урачы калолі дарагое лякарства, лішак якога заставаўся ад другога пацыента... Я разумею, што гэта Божы Провід паставіў на нашым шляху кс. Алега. Каб не ён, нават страшна падумаць, чым усё магло скончыцца".***

Святар кожнаму намагаўся дапамагчы, як мог. І словам, і справай. Не абмяжоўваўся спачувальным "Мне шкада... Трымайся!", а шукаў канкрэтныя шляхі вырашэння праблемы. Адкрыты на чалавечыя цяжкасці, нераўнадушны да чужых няшчасцяў. Быў блізкі народу, нікога не адштурхоўваў... А ці не такім павінен быць душпастыр, якога сёння патрабуе чалавек? Ці не такога сябра кожны хацеў бы мець?

Дзякуй, Божа, за слаўнага сына! Адары яго вечным шчасцем у Небе.

**Кс. кан. Алег Дуль памёр 3 красавіка. Пахаваны ля парафіяльнага касцёла, узвядзенню якога прысвяціў апошнія 13 гадоў свайго жыцця.**

*Ангеліна Пакачайла*

## Дзіцячы куточак

# Маёвая Пані

*Прывітанне, Маленькі Чытач! Май, магчыма, з’яўляецца самым прыгожым месяцам у годзе. Прырода, абуджаная ад зімовага сну, дзівіць надзвычайнай прывабнасцю навакольнага свету. Цяжка не заўважыць квітнеючыя бутоны на дрэвах і кустах, спеў птушак і не адчуць свежы водар расліннасці. Мора беласнежных суквеццяў ахінае пладовыя сады. Распускаюцца нарцысы, пахнуць ландышы і фіялкі. Лугі набываюць маляўнічы светла-зялёны колер. Уся зямля выглядае як раскошны вытканы дыван, кінуты пад ногі Маці Божай у прысвечаным Ёй месяцы. Здаецца, зямля, насычаная колерамі і пахамі, хоча пакланіцца Той, якую ўсім сэрцам любіць увесь свет.*

*У вёсках, сярод лясоў, лугоў, на перакрыжаванні дарог можна ўбачыць старыя і новыя капліцы ў гонар Маці Божай, якая заўсёды з’яўлялася для людзей ідэалам прыгажосці і велічы. Гэтыя каплічкі – менш ці больш прыгожыя – дарагія людзям, якія іх будавалі, бо лічаць, што акрамя нашых зямных маці ёсць і Нябесная.*

***Здаецца, яна была там заўсёды. Стаяла на ўскрайку вёскі, каля школы. Такая звычайная драўляная капліца з фігурай Маці Божай. Старэнькая спадарыня Юзэфава жыла бліжэй за ўсіх да яе, таму гаварылі, што гэта яе капліца.***

***Жанчына клапацілася пра невялічкую будоўлю, старалася, каб там было прыгожа. Зімой, калі ў полі не было працы, рабіла кветкі з паперы, каб потым аздобіць каплічку. Вясной садзіла кветнік, вырывала пустазелле.***

***Калі спадарыня Юзэфава захварэла, мусіла пераехаць да дачкі; і ўжо не вярнулася ў вёску назаўсёды. Яна прыязджала вясной, калі было цёпла, і адразу бралася за ўборку капліцы: выцірала фігурку Маці Божай, збірала павуцінне і зграбала сухое лісце з высокай травы. А ў маі, як звычайна, у капліцы з’яўляліся зробленыя ёю папяровыя кветкі.***

***І вось, аднойчы жанчына не прыехала. Хворыя ногі не дазволілі ёй устаць з ложка. Праз год памерла. Каплічка стала быццам нічыя, бо больш ніхто так, як спадарыня Юзэфава, не клапаціўся пра яе. Так, хтосьці збіраў лісце, хтосьці прыносіў кветкі, але гэта было не тое, што раней.***

***Вясной, калі вучні прыбіралі школьны сад і дзіцячую пляцоўку, старшакласніцы спыталі, ці можна прыбрацца вакол капліцы. Настаўніца згадзілася. Паглядзеўшы на капліцу, сказала, што яе трэба крыху адрамантаваць, бо дошкі дзе-нідзе сталі гнілымі. Дзеці расказалі пра ўсё бацькам, і тыя сумесна адрамантавалі капліцу, каб выглядала, як новая.***

***Ужо некалькі гадоў ніхто не збіраўся ў маі каля каплічкі, бо святар праводзіў марыйнае набажэнства ў касцёле, да якога было вельмі блізка. Але жанчыны дамовіліся прынамсі раз на тыдзень спяваць Літанію да Маці Божай каля капліцы, каб дзеці бачылі, як старэйшыя моляцца. У першы раз там сабралася, напэўна, уся вёска. Калі скончылі спяваць, адзін з мужчын змахнуў слязу і сказаў:***

***– Старой Юзэфавай спадабалася б, калі б убачыла, як тут прыгожа… Давайце падзякуем Маці Божай, што ў нашай вёсцы ёсць добрыя дзеці. Калі б не яны, мы ўсе толькі пераглядваліся б, і ніхто не ўзяўся б за аднаўленне капліцы.***

*У многіх вёсках, дзе няма касцёлаў альбо да іх вельмі далёка, у месяцы маі ўвечары жыхары дагэтуль збіраюцца каля каплічак спяваць Ларэтанскую літанію і горача прасіць апекі Маці Божай, каб аберагала іх сем’і, каб захоўвала краіну ад войнаў, голаду, пажараў, паводак і ўсялякай небяспекі.*

*Каралева супакою, маліся за нас!*

**Заданне:** *паспрабуй разам з бацькамі зрабіць у пакоі прыгожую каплічку, ля якой будзеш маліцца да Марыі на працягу месяца мая.*

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

# Ад шчырага сэрца

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**
з нагоды імянін жадаем Божага благаслаўлення на кожны дзень, а таксама сталай апекі Маці Божай і святога заступніка. Няхай Святы Дух шчодра адорвае Вас сваімі цудоўнымі дарамі і ўзмацняе ў выкананні нялёгкай пастырскай паслугі.
*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**
з нагоды імянін жадаю здароўя, сілы, стойкасці, непахіснай веры і надзеі. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі, а святы заступнік няспынна моліцца за Вас перад Божым тронам.
*С. Ірэна Златкоўская, Генеральная настаяцельніца Супольнасці Сясцёр Дапаможніц Чыстцовым Душам*

**Пробашчу Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану, Андрэю Ядкоўскаму, Эдуарду Пяцельчыцу, Вальдэмару Слоту і Змітру Чарнелю**
з нагоды Велікодных свят і Дня святара жадаем, каб кожны дзень жыцця і святарскай паслугі быў шчаслівы і блаславёны, каб Бог адарыў доўгім жыццём у здароўі і заўсёды падтрымліваў у цяжкія моманты, а Маці Божая атуляла сваёй мацярынскай любоўю.
*Францішканскі ордэн свецкіх з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважаным Айцам Пробашчу Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану, Андрэю Ядкоўскаму, Эдуарду Пяцельчыцу, Вальдэмару Слоту і Змітру Чарнелю, Сёстрам Філатэі і Агаце**
з нагоды Велікодных свят жадаем шчодрых ласкаў ад уваскрослага Хрыста, дароў Святога Духа, шмат сіл у рэалізацыі планаў, зычлівых людзей на жыццёвым шляху. Няхай кожны дзень Вашай паслугі будзе напоўнены радасцю і спакоем, а праца на карысць Богу і людзям прыносіць шчодры плён.
*Вернікі з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважаным Айцам Пробашчу Дзмітрыю Лабкову, Юзафу Гензу, Андрэю Врублеўскаму, Валерыю Мазюку, Віктару Бохану, Андрэю Ядкоўскаму, Эдуарду Пяцельчыцу, Вальдэмару Слоту і Змітру Чарнелю**
з нагоды Велікодных свят і Дня святара жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, добразычлівых людзей на жыццёвым шляху і поспехаў у душпастырскай працы. Няхай уваскрослы Хрыстос адкрывае свае далоні для Вас і шчодра благаслаўляе.
*Апостальства “Маргарытка” з парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды Дня святара, Велікодных свят і дня нараджэння жадаем моцнага здароўя і ўдзячнасці ад людзей. Няхай Уваскрослы будзе крыніцай радасці і спакою, а Маці Божая мае Вас у сваёй асаблівай апецы.
*Вернікі з в. Моцевічы*

**Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку**
з нагоды Дня святара, Велікодных свят і дня нараджэння жадаем шчодрых Божых дароў і сіл, неабходных у штодзённай святарскай паслузе. Няхай Езус адорвае сваім благаслаўленнем, а Марыя ахінае плашчом мацярынскай апекі.
*Вернікі з в. Моцевічы*

**Паважаным Ксяндзам Станіславу Лабану і Аляксандру Лебядзевічу**
з нагоды імянін жадаем Божага благаслаўлення, душэўнага супакою, усмешкі, шмат радасці і моцнага здароўя. Няхай Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і ўдзяляе свае дары, а Панна Марыя атуляе мацярынскім плашчом і нястомна пра Вас клапоціцца.
*Апостальства “Маргарытка” і вернікі з парафіі Беняконі*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**
з нагоды дня нараджэння жадаем, каб Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх далонях, благаслаўляў кожны Ваш дзень, Святы Дух удзяляў шчодрыя дары, а Панна Марыя стала апекавалася, каб Вы ў добрым здароўі маглі выконваць Божую волю.
*Парафіяне з капліцы Вердамічы*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**
з нагоды Імянін жадаем Божага благаслаўлення, моцнага здароўя, радасці, аптымізму, душэўнага супакою, моцнай веры, поспехаў у душпастырскай працы і шчодрых дароў Святога Духа.
*Вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці ў Доцішках*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, моцнага здароўя і душэўнага супакою. Няхай Анёл-ахоўнік нястомна чувае над Вамі.
*Сям’я Якелі*

**Паважанаму Айцу Станіславу Садоўскаму**
з нагоды імянін і 60-годдзя з дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, шмат сіл і здароўя ў рэалізацыі намераў, а таксама зычлівых людзей на святарскім шляху.
*Парафіяне з Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу**
з нагоды імянін жадаем патрэбных Божых ласкаў, нястомнай апекі Панны Марыі, шмат сіл, цярплівасці, нязгаснага запалу ў душпастырскай паслузе і моцнага здароўя. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за ўсе намаганні, якія прыкладваеце, каб наблізіць нас да Пана.
*Ружанцовае кола з парафіі Суботнікі*

**Паважаны Ксёндз Юрый Бяганскі!**
З нагоды імянін жадаем, каб як душпастыр Вы імкнуліся да мэты і нястомна адкрывалі дар і сэнс свайго паклікання, а таксама паказвалі людзям скарб Божых таямніц. Няхай Пан адорвае Вас здароўем і дазваляе як мага больш плённа служыць будаванню Божага Валадарства на зямлі, а святы апякун няхай заступаецца за Вас перад Божым тронам!
*Вернікі з парафіі Наведвання НПМ у Тракелях*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу**
з нагоды імянін жадаем шчодрых Божых ласкаў і толькі радасных хвілін! Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, а Марыя прытуляе да свайго сэрца.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Крамяніцы*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Сушынскаму**
з нагоды імянін жадаем душэўнага супакою, радасці, моцнага здароўя, рэалізацыі ўсіх планаў і добразычлівых людзей побач. Няхай Бог благаславіць кожны момант жыцця, а Анёл-ахоўнік абараняе ад усякага зла.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Германішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Лабану**
з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, цярплівасці ў святарскай паслузе, штодзённай радасці і нязгаснага запалу веры. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божай любоўю і міласэрнасцю.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Бенякояў*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Пытэлю**
з нагоды імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, нязгаснага запалу веры, надзеі і любові. Няхай Пан Бог заўсёды Вас благаслаўляе, а Найсвяцейшая Маці і святы заступнік нястомна апекуюцца.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Васілішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Валерыю Спірыдону**
з нагоды дня нараджэння і 8-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем добрага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, мноства Божых ласкаў, апекі Найсвяцейшай Маці, а таксама шмат сіл, мудрасці і стойкасці, каб крочыць выбраным шляхам.
*Вернікі з парафіі Мсцібава*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Кудэрку**
з нагоды імянін жадаем, каб здароўе ніколі не падводзіла, усмешка заўсёды гасціла на твары, мары здзяйсняліся, а побач былі толькі добразычлівыя людзі. Няхай кожны дзень будзе напоўнены радасцю, шчасцем, верай, любоўю і надзеяй.
*Парафіяне з Гродна-Аўгустоўка*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Раманоўскаму**
з нагоды імянін жадаем няспыннай апекі святога заступніка, моцнай веры, падтрымкі ад Бога і людзей, а таксама здзяйснення ўсіх намераў. Няхай добры Бог узнагародзіць Вас за веру, любоў і павагу да людзей, а Панна Марыя вядзе найпрыгажэйшым шляхам да святасці. Дзякуем за шчырую малітву і дабрыню.
*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з касцёла Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2046; тыраж 5045; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная